# Далеч-далячынь



Вершы і паэмы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1991



ББК 84Бел7
Б 27

Лирическая героиня книги, несмотря на жизненные трудности, неудачи и ошибки, находит в себе силы для того, чтобы поверить в человеческую доброту, высшую справедливость, бессмертие человечества.

В книгу включена поэма «Незабудки памяти», которая отражает один из тяжелейших моментов в жизни нашего народа — период культа личности и массовых репрессий, а также лирическая автобиографическая поэма «Встреча с юностью».

Б $\frac{4702120202-026}{М 302(03)-91}$ 44—91

ISBN 5-340-00634-4 

## Пасляюбілейнае Пімену Панчанку

Пімен Емяльянавіч,
Настаўнік дарагі,
Чытаю вершы вашыя —
Сама ў радку смялею.
Хацела нешта шчырае
Сказаць да юбілею,
А думкі разбягаюцца,
Што па вадзе кругі.

Перад начальствам розным
Не магу віляць хвастом.
Чынушаў элегантна-хамаватых
Не выношу...
Галоснасць надзвычайную
На нас усклала ношу,
Ды, як гаворыць прымаўка,
Назваўшыся груздом...

Не ўсё яшчэ як мае быць
У нас сярод людзей.
Жанчыны пры жывых мужах
Шчыруюць, як удовы.
Плыве дзяржаўны карабель.
Маяк перабудовы —
Арыенцір да берага
Агромністых надзей.

Пімен Емяльянавіч,
За семдзесят — гады...
Ды, пэўна, часам мроіцца,

Што жыў — адно імгненне.
Ратуе ад старэння
Толькі яснае гарэнне.
Сярод паэтаў сённяшніх
Вы — самы малады.

* * *

Адаслаць вам ліст наважылася
З вершам,
З пажаданнем
Самым шчырым і найлепшым
Дарагому чалавеку
І паэту,
Бескарыслівую
Песціла я мэту:
Што як зёлкі будуць
Вашаму здароўю
Тыя словы,
Што напоўнены любоўю.
Прамаўчалі...
Пэўна, верш не вельмі ўдалы,
Шчэ й газетныя ў ім
Звоняць прычындалы.
Ды спакойна стрэла б я
Прысуд суровы,
Бо нялёгка
Адшукаць такія словы.

* * *

Не згубіўшы
На шляхах жыццёвых веры,
Падарожніцай
Пастукаюся ў дзверы.

За плячыма будзе
Слоў цудоўных кайстра.
Папрашуся я ў чаляднікі
Да майстра.
Ну, а раптам майстра
Дома не застану,
Выйду ў поле,
У высокім жыце стану,
Пагукаю —
І яно мяне пачуе,
Тое сэрцайка,
Дзе жаўранак начуе.

## Ля дрэва, пасаджанага Машэравым

— Куды цяпер,
Направа ці налева?
— Спыні, вадзіцель,
Я далей сама.
Пятра Міронавіча
З намі больш няма,
Ды ім пасаджанае
Крону ўзносіць дрэва.

Заўсёды
Заставаўся ён сабой,
Наш сцяганосец,
Смелы і відушчы,
Як і тады,
У партызанскай пушчы,
Калі вадзіў не на парад —
На бой.

Рэспубліка
На новым віражы.
Патрэбай прадыктавана —
Не модай.
Калі не словам,
Дык маўклівай згодай,
Пятро Міронавіч,
Ты нам дапамажы.

Заслала восень
Залаты кілім.

Шчымліваю журбой
Сціскае сэрца...
Пра што гамоніць
Маладое дрэўца?..
У роздуме
Схілюся перад ім...

## Пра зямляцтва

Бывае шкоднае
Сваяцтва,
Кум кума цягне
За руку.
І вось асуджана
Зямляцтва
У непрадуманым
Радку.

Рэдактарскія
Спеюць планы,
Дзе побач цесць, нявестка,
Зяць.
Паэзія ці проза —
Кланы.
Няма куды
«Чужога» ўзяць.

Адзін паэт,
Паэт народны,
Адстойваў юнага
Радкі.
Быў гнеў яго
Высакародны.
Ды з пачаткоўцам —
Землякі.

Сказаў рэдактар:
«Непрыгожа.

Хай «прабівае» вершы
Сам».
Стаіць жывая
Агарожа —
Заслона
Шчырым галасам.

«Зялёны» ж ты
Або народны,
Ды сібірак
Сібіраку
І валгару валгар —
Як родны.
А паляшук
Палешуку?!

— Зямляк! —
Шчасліва выклікалі
Байцы пры стрэчы
На вайне.
З якою ласкаю
Віталі
Мы землякоў
На цаліне!

Наш час — касмічны.
Побач — зоры.
Ці б не шчаслівыя былі
У беспаветранай
Прасторы
Мы земляка сустрэць
З Зямлі?..

Зямляцтва —
Гэта не сваяцтва,

Бо тут яднае
Не пасаг,
А памяць —
(Сталасць ці юнацтва)
Малой Радзімы ёсць
Абсяг.

Зямляк,
Мацуем абарону!
Зямляцтвы ў спадчыну
Далі
Нам не кар'еру,
Не карону —
Любоў
Да роднае зямлі.

## Матчына трывога

Глядзіцца ў люстэрка часта
Дачушка мая, падлетак,
І марыць, як у сталіцу
Вучыцца яна паедзе.
Улетку вянкі звівае
З просценькіх жоўтых кветак,
З суседскімі хлапчукамі
Ганяе на веласіпедзе.

Чытае даволі бойка
З падручніка тэкст англійскі.
Пачне вышываць — закіне:
Цярпення няма на крыжыкі.
Ірвецца дачка ў дарослае.
А шлях да яе няблізкі.
На свеце ж такое робіцца,
Чытаеш — па целе дрыжыкі.

А колькі вакол спакусаў!
На кожную ёсць рэклама:
На каву і матагонкі,
На рок «металічны» і піцу.
Сучасную «гёрл» рэкламуе
Зорка тэлеэкрана,
Спявае, як завывае,
Падстрыжаная пад «ваўчыцу».
Нядаўна ў судовай зале
(А нечыя ж дзеткі родныя)
Сядзелі з нахабным выглядам
Падсудныя хлопцы-малойцы.

Раслі ж, як усе, здаецца —
Не босыя, не галодныя.
Як здарылася, што выраслі
Гвалтаўнікі-забойцы?!

Прывабнай расце дачушка.
Жаданняў у маці многа.
Калі ж будзе падаць зорка,
Адно загадаю з многіх:
У грукаце дыскатэкі,
У змроку двара прахаднога
Будзь, лёс, міласэрны: доньку
Ўратуй ад звяроў двухногіх!

* * *

*Памяці*
*Уладзіміра Высоцкага*

Абселі трутні
Спрэс будынкі-вуллі,
Цягнік дзяржаўны
Рухаўся ў тупік.
Ён папярэджваў,
Толькі, каб пачулі,
Патрэбен быў амаль звярыны
Крык.

— Ён крымінальны!
Ён элементарны!
Ён шкодны!
Не пускаць! Забараніць!
...А ён хрыпеў
Пад перабор гітарны,
Да нашых душ
Працягваючы ніць.

Ад перагрузак
Падступала млоснасць,
А ён будзіў
Глухую цішыню
І да вяршыні з назваю
«Галоснасць»
Пракладваў нам, наступнікам,
Лыжню.

Ён пагарджаў
Хлусней гнілых рэцэнзій,

Як звычкай
Берагчыся ад прастуд.
І знешні ёсць,
І ўнутраны ёсць цэнзар.
Сумленне —
Вось адзіны строгі суд.

Пра ўласную не думаючы
Долю,
Ён вены рваў у горле
Да крыві.
Пакуль яны не лопнулі
Ад болю,
Ад гневу, ад адчаю,
Ад любві.

Ёсць творцаў шмат
Заслужаных, народных.
І ёсць каму
На змену ім прыйсці.
Не трэба толькі прэмій
Пасмяротных.
Шануйце, людзі, талент
Пры жыцці!

* * *

Складаць бы пра ліпень
Духмяныя строфы,
Жытнія
І мядовыя...
Прывіды
Ядзернай катастрофы
Спальваюць
Клеткі нервовыя.

Не верыцца нават,
Што можаш бяду мець
У гэткае шчодрае
Лета.
Сабе загадаеш:
— Не думаць, не думаць...
А хто ж будзе думаць
Пра гэта?..

Пра кожны паверх
І пра кожны палетак
З трывогаю
Думайце, людзі.
Зямлю нашых продкаў,
Зямлю нашых дзетак
Ратуйце,
Бо іншай — не будзе.

## Восень на Палессі

Закрылі сонца хмары
Спакваля,
Сухой лістотай
Сцежка зацярушана...
Пакутная
Палеская зямля,
Ізноў ты за жыццё
Змагацца змушана.
Гарадь люцэрны
Чорныя стагі.
Над вогнішчам варона
Гучна каркае.
Вось-вось пачнецца дождж,
Такі ж даўгі,
Як матч
Паміж Каспаравым
і Карпавым.

## Лёнік

— Глядзі, цягае скрыні
Ля ларка...
— А не згадзіўся ж
Вартаваць кароўнік...
...У каваля
Малодшага сынка
Назвалі Леанід,
Ці проста Лёнік.

Любіў канькі,
Марозную зіму.
Хлапчынка рос удалы,
Не лядачы:
З налёту ўсё
Давалася яму —
Футбольны мяч
І школьныя задачы.

Пайшоў у войска,
Атрымалі ліст,
У ім... «Ваш сын
Да службы вельмі здатны.
Цудоўны атрымаецца
Танкіст,
А да таго ж
Таварыш ён выдатны».

Павінен быў прыйсці
Праз два гады.
Прыйшоў праз год,—

Капрызная планіда.
Вярнуўся,
Хударлявы, малады,
З казённаю паперкай
Інваліда.

Бо там, на службе,
У адной з атак,
У танкавай,
Вядома што — вучэбнай,
Як быццам нешта
Выключыў не так
Або ўключыў не тое,
Што патрэбна.

Уночы маці плакала
Наўзрыд:
Хоць цэлы зрок,
На месцы ногі-рукі,
Прызнала медыцына —
Інвалід,
І строга забаронены
Навукі.

І пенсію
Прызначылі яму,
Такую, што прыстойна
Жыць магчыма.
...А ён — у ботах
Лета і зіму
І ўсё глядзіць
Дзіцячымі вачыма.

Папросяць людзі —
Гной развалачэ,

Паносіць торф
Або паколе дровы.
Жанчыны пажартуюць —
Уцячэ,
А з выгляду —
Прыгожы і здаровы.

Цураецца дзяўчат,
Нібы стары,
Хоць і па ім
Равесніцы ўздыхалі.
Па вечарах
За рэчкаю кастры
З калгаснымі ён паліць
Пастухамі.

Курыцца едка
Горкая жарства...
Яму, майму равесніку,
Пад сорак.
Крычыць здалёк
Саплівая дзятва:
— Здарова, Лёнік!
— Прывітанне, Лёнік!

Аблезлая штармоўка
На плячах.
Ні сумны, ні вясёлы —
Аніякі
Ля вогнішча сядзіць ён,
А ў вачах —
Злавесны водбліск
Танкавай атакі.

## Андрэеўны

На даўняе фота
Гляджу я цішком.
Той здымак стары
На фанеру прыклеены.
У белых шкарпэтачках,
Косы вянком,
Паліна і Соф'я
Па бацьку Андрэеўны.
Адразу пазнаеш,
Што сёстры яны.
Падобныя з твару
І рост як адмераны.
Прыйшлі з педвучылішча
Шчэ да вайны
У школу настаўнічаць
Сёстры Андрэеўны.
Вайна і —
Аблава, таварны вагон,
Чужыя дарогі —
Пясчаныя, грузкія.
Ні імя па бацьку,
Ні проста імён —
Рабыні
Славацкія, польскія, рускія.
Вясна Перамогі...
І зноўку было
На вуліцах нашых
Чырвона і зелена.
Вярнуліся разам
Аднойчы ў сяло

Сівыя Паліна і Соф'я
Андрэеўны.
Хоць шчасце сямейнае
Іх абышло,
Дзіцячыя лёсы
Былі ім давераны.
Амаль што да рання
Палілі святло,
Старэлі за сшыткамі
Нашы Андрэеўны.
У хаце драўлянай
І цеснай ад кніг
На ходзіках беглі
Гадзіны руплівыя...
Жаночы свой век
Дажывалі ўдваіх,
У згодзе,
Настаўніцы нашы цярплівыя.
Задрэмлюць —
Прысніцца шумлівы урок,
Вясёлы паход
З піянерскімі песнямі.
Даўно адзвінеў
Ім апошні званок,
Нядоўга прыйшлося
Пажыць ім на пенсіі.
На могілках сельскіх
Бярозка шуміць.
Дзіцячай рукой
Агарожка пабелена.
На два толькі тыдні
Змагла пераражыць
Паліну Андрэеўну
Соф'я Андрэеўна.

## Матуля

Матуля
П'е настойку палыну.
Што данімае, мама,—
Боль ці памяць?
Ці бачыш зноў
Праз бэзавую замець
Галоднае дзяцінства
І вайну...

У трыццаць сёмым
Быў сасланы дзед
У край,
Што называлі «салаўкамі».
(А там адвучаць
Ляпаць языкамі,
Чарніць
Правадыра аўтарытэт.)

Як вы жылі...
А так вось і жылі.
Хлябнулі
І крапіўнічку, і гора.
Бабулі — трыццаць пяць.
Дзяцей пяцёра.
Дапамагалі людзі,
Чым маглі.

Бамбёжка, акупацыя —
Вайна.
Насуперак

«Нямецкаму закону»
Хавалася матуля
Ад палону.
Але...
Не ўратавалася яна.

...Не зажыло,
Не зарасло быллём —
Глухі фальварк
У Прусіі Усходняй.
Ваконца,
Плесня на кутках і сходах —
Падвал,
Які служыў табе жыллём.

Не везлі тую вестку
На валах —
Яна ляцела
Тэлеграмай хуткай:
«Берлін капітуліраваў!»
Папуткай,
Таварным, пешшу —
На Радзіму шлях.

Ляцела,
Як жураўачка, здаля,
Не ведала,
За шчасцем ці бядою.
Ды як не жыць —
З вадою, з лебядою,
А толькі б там,
Дзе родная зямля.

Даруй, матуля,
Доччыну віну,

Якую не заўсёды
Адчуваю.
І рэзкай,
І нястрыманай бываю.
Спытацца пра здароўе
Забываю.
...Не скардзішся,
І толькі, як засну,
Ты моўчкі п'еш
Настойку палыну.

## Сон-трывога

*Памяці*
*Аляксея Васільевіча Пысіна*

Мне аб вайне мінулай
Сняцца сны
Спякотным летам
У бацькоўскай хаце.
Маё жыццё ў сабе
Адчула маці
У мірны дзень,
Праз год пасля вайны.
Ды часта аб вайне
Мне сняцца сны...

А ты прайшоў
З пяхотаю франты.
Нябачныя
Табе igралі трубы,
Калі хаваў сяброў
І, сцяўшы зубы,
Зрываў свае
Крывавыя бінты,
Прайшоўшы
Тры суровыя франты.

І муза твая сціплая
Жыла
У радавым,
Не генеральскім чыне
Адным імкненнем —
Паслужыць Айчыне.
Яна не раз

Параненай была,
Але сваіх пазіцый
Не здала.
Калі мая
Нясмелая рука
Падтрымкі прагла
На світанні росным,
Азваўся ты
І стаў мне бацькам хросным
У храме
Вершаванага радка.
І цвёрдасць
Набыла мая рука.

...І зноў мне пра вайну
Прысніўся сон.
Мо чуючы
Апошнюю дарогу,
Ты перадаў мне
Тую сон-трывогу,
З якою шлях далёкі
Мне відзён,
З якою жыць мне
Да апошніх дзён.

## Бацькоўскі дом

Прывычная
Зімовых святаў рыска —
Марозны пах
Падсіненых гардзін...
Хаўтур нямала бачыў
І радзін,
Бацькоўскі дом,
Дзіцячых мар калыска.

У печы паліць мама,
Носіць вёдры
(Не самае сучаснае
Жытло),
Ды льецца з вокнаў
Роднае святло,
І кожнаю маснічынкай
Ты добры.

Выходзіць з моды рэч —
Зніжаем цэны.
Нямоднаму,
Няма табе цаны.
...Як зберагчы
Ад чэрствасці, маны,
Ад нашае міжвольнае
Віны
І ад сусветнай
Ядзернай вайны,
Бацькоўскі дом,
Твае старыя сцены?

## Знак перасцярогі

Здаўна радзілі добра
На Палессі
І каласы, і яблыкі,
І песні.
Чакалі — будзе шчодрым
Тое лета.
І раптам —
Скаланулася планета...

За «МАЗам» «МАЗ» вязуць
За тонай тону,
Бо трэба саркафаг
Зрабіць з бетону
На атамаў злавесныя
Мільярды,
Што рвуцца
З-пад разумнае улады.

Ты чуеш
Горкі пах счарнелай былкі?
Бываюць
Непапраўныя памылкі.
А людзі памыляюцца,
Не богі.
Дым быльняговы —
Знак перасцярогі.

На зайздрасць,
Што і ясны дзень
азмрочыць,

На сквапнасць,
Што, як вусень, сэрцы
точыць,
На спрэчкі неістотныя
З суседам,
На дробязныя плёткі
За абедам,
На доўгія і нудныя
Даклады,
Штодзённа марнатраўныя
нарады,
На рапартаў раздутых
Тэлеграмы
Зрабіць бы саркафаг
Вось гэткі ж самы...

Не лішні
Напамінак чалавеку:
Мы ўсе — на грэбні
Атамнага веку,
На вастрыі, на быстрыні,
На строме.
Быць ладу, быць
Ва ўласным нашым доме!

## Бацькоўскае прозвішча

Мой бацька родам
З крычаўскіх мясцін.
Ён прозвішча насіў
Басуматораў.
І гэты басавіты
Роў матораў
З не вельмі даўніх,
Як відаць, часін.

Ён ваяваў.
Паранены ён быў.
Шпіталі,
Быццам лента кінакадраў.
І апынуўся бацька
Басуматраў —
Ваенны пісар
Літару згубіў.

А прозвішча —
Не капялюш, насі.
І землякоў здзіўляла —
Басуматраў?
З арды
Ці, можа, з вострава Суматра,
Але ж не беларускае
Зусім.

Свае складаю
Шчырыя радкі
На мове продкаў я,
Па-беларуску

На мамінай Радзіме,
У Бабруйску,
На беразе
Бярэзіны-ракі.

Было ў мяне каханне,
Не схлушу,
Ды я вяселля з любым
Не згуляла
І прозвішча па мужу
Не мяняла —
Я прозвішча бацькоўскае
Нашу.

Аб каранях
Дарэмна не гадай:
Не знаўшы,
Памыліцца вельмі проста.
Па прозвішчы
Не сустракаю цёзкаў,
Хаця радня па бацьку
Ёсць, бадай.

Вось гэткі лёс
У прозвішча майго,
Адзінага...
І ўсё-ткі ведаць здорава,
Што на Сажы
Жывуць Басуматоравы
І мы —
Галінкі дрэва аднаго.

## Пасталенне

Даўно пасохлі
Кветкі палявыя.
Зазімак —
Невясёлая пара.
Плывуць павольна
Хмары снегавыя,
Як горкі дым
Вандроўнага кастра.

Глядзіш,
Як непрыкаяны вандроўнік,
Які брыдзе далёка
І здалёк.
...Дзяцінства адшугала,
Як дзядоўнік.
Юнацтва адцвіло,
Як васілёк.

Засыпле снегам
Паплавы рудыя.
Замерзне
Люстраная гладзь ракі.
...Як скараспела,
Страсці маладыя,
Вы нараджалі
Лёгкія радкі.

Не ўсё, што планавала,
Я зрабіла.
Не ўсё, што абяцала,

Аддала —
Відаць, занадта
Я жыццё любіла,
Зямной да самых мезенцаў
Была.

Цяпер у згодзе
З розумам цвярозым
Душа не церпіць
Таннай мітусні.
Не дробязны разлік —
Глыбокі роздум
Ратуе
Ад напышлівай хлусні.

О пасталенне,
Ты — не пастарэнне,
Ты ўсё з рэальных планаў
І надзей.
У справах назіраем
Паскарэнне,
І робіцца дзяржава
Маладзей.

Звыкаюся з табою,
Пасталенне,
Як з вопраткай,
Пашытай навырост.
Наступнікаў
Шыбуе пакаленне
Наўпрост
І нам нагадвае пра ўзрост.

...Вітаю моц
У юных падгалосках.

Мой голас
Не такі ўжо малады.
...Ды яблыня
Не плача па пялёстках,
Калі наспеліць
Важкія плады.

* * *

І я кручуся разам
З зямным нястомным шарам,
Змяніўшы рамантычнасць
На строгасць пачуцця.
О не, зусім не проста
На свеце жыць з цяжарам,
Які людзьмі завецца
«Веданнем жыцця».

А ён заўжды са мною,
Няўмольны, як калецтва.
Нікуды не падзенеш
Пякучы гэты боль.
Пісаць не маеш права
Пра клопат чалавецтва,
Калі забыў, што потам
Даюцца хлеб і соль.

Праблема выжывання
Перад дваццатым векам.
Ну, так, патрэбна выжыць.
Важней няма патрэб.
Але ж не проста выжыць —
Застацца *чалавекам.*
І помніць — мазалямі
Даюцца соль і хлеб.

## Тры кіты

Стары Гасан
Па бацьку ібн Хатаб
Даводзіў
(Як напісана ў каране):
Трымаецца зямля
На трох кітах.
Кіты плывуць
У вечным акіяне.
    Навука
    Растлумачыла нам свет,
    Наблізіла
    Касмічныя абшары,
    Галактыку, дзе дзевяць ёсць
    Планет,
    І сярод іх — Зямля,
    Блакітны шарык.
А ён не памыляўся,
Ібн Хатаб.
Зямля плыве
У вечным акіяне.
Трымаецца яна
На трох кітах:
Кіт Праца, кіт Сумленне,
Кіт Каханне.

## Мы знойдзем шлях

Збліжаемся
Адзеннем і гаворкамі.
Прыдумаў
Мову эсперанта свет.
Разлічваем
Адлегласць паміж зоркамі.
Даследуем
Камет імгненны след.
    Наш кожны дзень —
    Увасабленне новага
    Здзяйснення, азарэння,
    Адкрыцця.
    І поўняць промні
    Сонейка вясновага
    Усё жывое
    Радасцю жыцця.
Паветра пахне
Першымі пралескамі.
Лясны ручай
Пранырліва бяжыць.
Палеткамі, лугамі,
Пералескамі
Мая планета
Прагне вечна жыць.
    Яшчэ вар'яты
    Плодзяць зброю з мэтаю
    Раздзьмуць
    Сусветны ядзерны касцёр,
    Але з'яднае вера ў мір,
    Я ведаю,

Жанчын усёй планеты,
Як сясцёр.
Ці ж нас вучыць
Упартасці і рупнасці?!
Хай будзіць дзетак
Толькі мірны гром.
Мы знойдзем шлях
Праз полюс недаступнасці
Да айсберга пад назвай
Белы дом.

## Пра бессмяротнасць

Злосны ураган
Ламае вецце.
Неспакойны свет наш,
Неспакойны...
Не сціхаюць
Войны на планеце,
Зорныя ў вар'яцкіх планах
Войны.
Мы ж усе — разумныя істоты,
Жыць бы ў згодзе,
Землякі-зямляне.
Ўсім хапіла б
Ценю ад лістоты,
Ўсім хапіла б
Рыбы ў акіяне.
Вораг жа агульны ў нас —
Хваробы.
Медыцына накапіла факты,
Як нашчэнт
З'ядае рак вантробы,
Як заўчасна
Косяць нас інфаркты.
Верыцца:
І мы — чыесьці продкі.
У нябыт адыдзем
Шляхам Млечным...
Чалавечы век
Такі кароткі,
Чалавецтва быць павінна
Вечным!

## Пад зоркаю Антарас

Нябёсы зіхацелі
У тую ноч як зараз.
У незваротны вырай
Лістоту вецер нёс.
І асвяціла зорка
Пад назваю Антарас
Маё на свет з’яўленне
І ўвесь далейшы лёс.

Мо лёс і незайздросны
(Хаця я не крыўдую),
Як яблык той, дзе слодыч
З гаркотай напалам.
...Аддам усё, што маю,
Ані не пашкадую.
Адно цябе, мой краю,
На згубу не аддам.

Былінны, журавінны,
Хваёвы і азёрны,
Дзе лічаць век зязюлі
І звоняць жаўрукі.
І дол твой верасовы,
І небасхіл твой зорны,
І род твой чалавечы —
На вечныя вякі.

У горы — непахісны,
У спачуванні — шчыры,

У барацьбе — нязломны
Вялікі твой народ.
Пад зоркаю Антарас,
Чырвонай зоркай міру,
Страчай, мой любы краю,
Свой кожны дзень і год!

## Маладосць, затрымайся

Па мазырскай
Абветранай вуліцы
Я спяшаюся
Лёгкай хадой.
...Зноў аб'яўляць
Даверлівай публіцы
Паэтэсай мяне
Маладой.

Што ж, няхай.
Выглядаць маладзейшымі —
Натуральная
Мэта жанок.
Маладосць жа пацвердзіцца
Вершамі:
Я знайду
Адпаведны радок.

Ў год,
Калі былі травы няскошаны
Ля пакутнай
Палескай ракі,
Прыляцеўшы
Нязвана-няпрошана,
Адляцелі
Мае саракі.

Мо ў хвіліны апошнія,
Цяжкія,
Як на горкую стану

Мяжу,
Прыйдуць словы
Скупыя і важкія,
Як астатнія кроплі
Дажджу.

А пакуль
У душы маёй весніцца
І таемнасцю
Вабіць жыццё,
Шчодра словы ў радку маім
Цесняцца,
Кружыць іх, быццам вір,
Пачуццё.

Незнаёмы
З нудою і стомаю,
Пеніць май
У садах сырадой...
Будзем жывы,
Шчэ траплю ў вядомыя.
Мне пабыць бы даўжэй
Маладой!

* * *

Сардэчна радуе
Дарожанька
Ў палескі мілы
Гарадок...
Сусед пытае
Асцярожненька,
Па колькі плацяць
За радок.

Сусед здалёк са мной
Вітаецца.
Ён хваліць вершы.
Я маўчу.
Ніхто ніколі
Не пытаецца,
Чым я за свой радок
Плачу.

А той радок,
Што нараджаецца
Нязмушана,
Як пачуццё,
Не прадаецца,
Не купляецца.
Яму цана —
Усё жыццё.

## Адкрытае пісьмо аднаму з лідэраў «Тутэйшых»

Узяў сабе ролю зайздросную —
Лідэра.
Табе падабаецца
Роля твая.
Але ў алфавіце —
Апошняя літара
Спакусная — гэтая
Літара «я».

Мо свет уяўляецца
З белага й чорнага?
Мільёны ў ім фарбаў,
Адценняў, масцей...
Дазволь нагадаць:
Шчэ ад веку пячорнага
Узнікла праблема
Бацькоў і дзяцей.

Карціць вам прымераць
Судзейскія мантыі.
Памылкамі вы
Папракаеце нас.
А вашыя дзеці
(Не маем гарантыі)
Не зробяць аднойчы
Падсуднымі вас?

Так, шлях наш
Не гладкаю быў аўтастрадаю.

Ды, можа, й да вас
Лёс не будзе дабрэй.
І з кожнаю стратаю,
З кожнаю здрадаю
Ты будзеш,
Мой хлопча,
Рабіцца мудрэй.

Ты будзеш асобу ў сабе
Загартоўваць,
Яна — не ў стракатасці
Модных адзеж.
Ды перш, чым навокал
Кагосьці згуртоўваць,
Падумай сур'ёзна,
Куды павядзеш.

Згаджаюся,
Мала такога друкуецца,
Дзе вобраз адметны,
Дзе моўны прастор.
...Зязюлі і той,
Мабыць,
Цяжка кукуецца —
Знікаюць крыніцы,
Атручаны бор.

Трымаем Пегаса
Нябачнымі путамі.
То пугай сячэм,
То падкормім сыцей.
...Ці зробяцца нашыя дзеці
Манкуртамі?
Ці мы адрачэмся
Ад родных дзяцей?!

Да мовы любоў...
— Не было б толькі позаю,
Калі гэта боль,
То хвала барацьбе!
Ці вы палюбілі
Любоўю цвярозаю
Не слова ў сабе,
Але ў слове — сябе?..

Калісьці лічылі нас
Максімалістамі.
І мы «выступалі»,
Дальбог, не хлушу.
Па форме
Вы будзьце сабе «металістамі»,
Абы не скавала металам
Душу.

Хай шчыра пяецца,
Смяецца і любіцца,
Ваюецца з тым,
Хто падлазіць смаўжом!
...А талент сапраўдны
Ніколі не згубіцца,
На прагную глебу
Пральецца дажджом.

## Родная мова

Знаёмы казаў:
— Ты б пісала па-руску,
Бо й Пушкіным Пушкін
Іначай не стаў.
...А вершы мае
Прадавалі «ў нагрузку» —
«Прыцэп» да
«Даведніка лекавых траў».
Так, побач з гербарыем —
Вершы жывыя.
Магчыма, шчэ й тая прычына
Была:
Пазначана «Кветкі... было
...палявыя» —
Такую ўжо назву
Я кніжцы дала.
У продажы гэткім
Бязладнага столькі,
Ганебнага, прыкрага столькі —
Ўсяго...
Мой сябра, паэце,
Няўжо ж гэта толькі
З табой мы чытаем
Адзін аднаго?
Няўжо заняпала
Прабабчына слова,
Якое з маленства
У сэрцы таю?
Мая беларуская
Родная мова,
Наколькі змагу, за цябе пастаю.

## Вуліца Макаёнка

Прайсці,
Не запаволіўшы хады,
Я не магу
Пад гэтаю таблічкай.
Як сонца ўранку
Устае з вады,
Так усплывае з памяці
Аблічча.

Смяяўся
Гэтак шчыра пры жыцці —
Нябожчыкам
Назваць яго няёмка.
І вось цяпер
Даводзіцца ісці
Па вуліцы
Андрэя Макаёнка.

У кажушку,
Відаць, з сяла, стары,
Пастукаўшы
Валёнкам аб валёнак,
Бурчыць пад нос,
Чытаючы ўгары:
— Хто ж быў, цікава,
Гэты Макаёнак?

А ён, калі б пачуў,—
Не зазлаваў,
У позірку б схаваў

Гарэзна ўсмешку.
Вось з гэткага ж старога
Змаляваў
Аднойчы ў «Трыбунал»
Свайго Цярэшку.

Мужык вясковы,
Той чытаў не шмат
Разумных кніжак.
Ды ці ён адзіны?
Пад кожнай жа са стрэх
Сялянскіх хат
Жыла навука
Вернасці Радзіме.

Ідзі, стары,
Купляй, сталічны госць,
Прысмакі, сушкі,
Новыя анучы.
А Макаёнак...
Ён не быў, ён — ёсць.
Ён — наш, палескі.
Ён, браток, жывучы.

## Блізкая далячынь

*Памяці*
*Уладзіміра Караткевіча*

На каляным
Калінавым вецці
Палымяныя гронкі
Гарацъ.
Ладзіць гуслі нябачныя
Вецер —
Старажытную
Песню зайграць.

Цёплы шалік
Накіну на плечы,
Сяду моўчкі
Бліжэй да агню.
Успаміны
Аб даўняй сустрэчы
Ад сябе я
Дарэмна ганю.

Зноў душа,
Нібы плотачка ў нерат,
У шчымлівы трапляе
Палон.
...Каб жыццё сваё
Ведаць наперад,—
Ды нікому
Той шлях не відзён.

Не бушуюць
Раўнінныя рэкі,

Ды пад вербамі
Кружаць віры...
Адышоў ты
На вечныя векі
Ці пайшоў на плытах
Па Дняпры...
Толькі знік
За крутым паваротам,
Наўздагон
За нязбытнай вясной.
...За балотам,
За чуйным чаротам
Лес цямнее
Зубчастай сцяной,

Нібы замак той чорны
З падання.
Ходзяць здані
Сівых аблачын.
Гэта — родная
Аж да рыдання,
Сэрцу блізкая
Далячынь.

* * *

Пішы, хвалюйся,
Крэслі і — пішы!
Пра ўсё, што ты паспеў
Пачуць і ўбачыць,
Пра ўсё, што накіпела
На душы —
Ты за жыццё
Павінен свет аддзячыць.
Калі сябе ў радку
Пазнае свет,
Як ты б ні жыў,
Ці шчасна,
Ці гаротна,
Ён званне найвышэйшае —
Паэт —
Табе прысвоіць,
Хоць бы й пасмяротна.

## Мастацтва

Вялікае і вечнае
Мастацтва
У песню неўміручую
Зліло
Пяшчотную
Мелодыю Сен-Санса
І трапяткое
Лебедзя крыло.
    А крытыкі:
    «Артыстка вобраз лепіць»...
    Не, гэта нешта іншае
    Зусім.
    ...Як біўся ён,
    Жывы, сапраўдны лебедзь,
    І раптам
    Галаву паклаў без сіл
На крылы распасцёртыя.
І сціх ён...
Ды нешта ёсць
Мацнейшае за смерць!
На нейкі міг
У зале стала ціха.
І — воплескаў
Пранёсся гучны смерч.
    ...Пяшчотная
    Мелодыя Сен-Санса
    І трапяткое
    Лебедзя крыло.
    Ты вабіш душы юныя,
    Мастацтва,

Як матылькоў
Вячэрняе святло.
Ці будуць
Аксамітная заслона
І з ружамі
Узрушаны глядач...
А покуль —
Рэпетыцый пот салёны,
І ўпартасць пошука,
І прыкры боль няўдач.

## Творчасць

Дык вось што патрэбна
Было для радка:
Патрэбны былі,
Як нябачныя крылы,
Пакутныя,
Нечалавечыя сілы,
Балючае сэрца,
Скупая рука.
Дык вось што патрэбна
Было для радка!

І вось той радок
Паявіўся на свет.
...Як сэрца балела,
Як сэрца шчымела,
Як сэрца сябе
Перасіліць не ўмела,
Пакуль неабходнасць радка
Зразумела.
І вось той радок
Паявіўся на свет.

* * *

*Памяці*
*сяброў па Літінстытуту*

А ўсё-ткі шкада мне
Маскоўскай студэнцкае вольніцы.
Жалезных карункаў
І лавак старых на Цвярскім.
Дзяўчынка з правінцыі,
Я не паспела апомніцца,
Як рубам паўстала пытанне:
Куды мне і з кім?..

Кіпела жыццё.
Бушавала, як лава, паэзія.
І мучыў гітару
Цыганісты Саша Пятроў.
То горка да смеху,
То раптам да слёз было весела.
І вабіла ўладна
Спакуса ахвярных кастроў.

Любімыя песні.
Кароткія стрэчы і провады.
І спрэчкі да хрыпу,
Да кашлю заядлых курцоў.
...Душу ратаваць
Пад ахову бацькоўскае Волагды
З маленькім старым чамаданчыкам
Ехаў Рубцоў.

А там на Вялікдзень
Званам гэтак хораша звоніцца.

І сонейка грае
На голлейку сціплых прысад.
...Шкада беззваротна
Маскоўскай студэнцкае вольніцы
І тых,
Хто ніколі
Не зможа вярнуцца назад.

## Дэбют

Маё непараўнальнае
Юнацтва,
Хіба ты можаш мне
Не ўспамінацца?..
Нас Смелякоў уражваў
Словам шчырым.
Натхняў Твардоўскі
Смелым «Новым мірам».

Выразна помню
Вечар паэтычны:
Як хворы буйвал,
Роў Політэхнічны.
Раві,
Вольналюбівая дзяржава,
З гітараю выходзіць
Акуджава.

Размашыста,
Студэнцкі бог і геній,
Шпурляе ў залу
Свой радок Яўгеній [1],
І Роберт [2]
Натыкаецца на рыфмы,
Як катэр
На каралавыя рыфы.

---

[1] Яўген Еўтушэнка.
[2] Роберт Раждзественскі.

Там не чытала верш,
А быццам пела,
Счапіўшы пальцы тоненькія,
Бэла [1].
Вось, абвясціўшы публіцы
Падзяку,
Залепятала штось
Аб Пастарнаку.

Ды выгукнуў тут хтосьці
Неспадзеўкі:
— Патрэбны тут паэты,
А не дзеўкі! —
На гэты вокліч,
Злосна-іранічны,
Як ранены,
Узвыў Політэхнічны.

Хвілін пятнаццаць
Публіка дурэе.
Нарэшце сціхла.
Слухае Андрэя [2].
Як апантана
Рваўся да дэбюта
Наш творчы семінар
Літінстытута...

У шумнай аўдыторыі
Сталіцы
Былі, відаць,
І нядобразычліўцы.
Ды мне, дзяўчынцы,

---

[1] Бэла Ахмадуліна.
[2] Андрэй Вазнясенскі.

Паэтэсе юнай,
Быў незнаёмы
Страх перад трыбунай.

. . . . . . . . . . .

Падлік гадам,
Не тое што мінутам,
Я не вяду.
Жыву, як на вакзале.
І кожны дзень
Здаецца мне дэбютам:
Вось выйшла.
Што скажу няўмольнай зале?..

## Штрыхі да радаслоўнай

Каб герб свой меў род мой,
Як некалі рыцарскі,
Былі б на ім
Хваля ды з хлебам ручнік.
Мой прадзед па бацьку
Быў булачнік крычаўскі,
А прадзед па маме —
Бабруйскі рачнік.

Ледзь зоймецца золак,
Крывымі завулкамі
Спяшаўся ўжо булачнік —
Рана ўставаў.
Як сонейка, круглымі,
Цёплымі булкамі
Мой прадзед Ісак
Гараджан частаваў.

І баржу цяжкую
Люляла Бярэзіна,
Трывожыў гудок
Прыбярэжны туман.
Шмат грузаў па рэчцы
Было перавезена.
Служыў капітанам
Мой прадзед Іван.

Завейнаю сцюжай,
Спякотаю млоснаю
Клясці або дзякаваць

Мне на вяку
За долю няпростую,
Долю зайздросную —
З людзьмі аб усім
Гаварыць у радку.

Ні жыць, ні пісаць
Не магу абыякава.
Ці ж вы́нашу той,
Запаветны, радок,
Каб быў ён патрэбны,
Як булка Ісакава,
Як той, у тумане,
Іванаў гудок?..

## Размова са старым вартаўнікам пра паэзію

Стары не хаваў інтарэсу,
Прыкметна
Дрыжала рука:
— Я чуў,
Быццам ты — паэтэса,
Пра што ж твае вершы,
Дачка?

Мы селі ўдваіх
На бярвенне.
«ЗІЛы» прасавалі шашу.
Вачамі старога
Сумленне
Глядзела мне
Проста ў душу.

Бывае такая мінута,
Кажы —
Ты навошта і з кім.
...А верш мой
Замешаны крута
На горы
І болю людскім.

Там ёсць і пракосы,
І плёсы, і хвалі
Бярозы-ракі.
А больш —
Чалавечыя лёсы,
Зямлячкі мае, землякі.

Вядома,
Узрост Перамогі —
Чатыры дзесяткі
Гадоў.
...А дзед Алісейка
Бязногі,
А горкая памяць
Удоў?

А сёння —
І п'яная маці,
І бацька,
Што з'ехаў у свет.
А дзеткі
У доме дзіцяці?
А зброяй начынены
Свет?

— Праўдзіва, дачушка,
Праўдзіва.
Як кажуць,
Глыбока арэш.
Ды толькі
Бярэ мяне дзіва:
Сама-то
Някепска жывеш.

І хлеба хапае,
І солі,
І з выгляду — пава.
...Хаця,
Відаць,
Без сардэчнага болю
Не пішацца
Кніга жыцця.

## Лірычна-гумарыстычны ўспамін аб Доме творчасці «Каралішчавічы»

Вясновы бор і бор зімовы,
Збіраеш творцаў ты даўно —
Служыцеляў радка і мовы.
Як і стваральнікаў кіно.
Я пазнаю беспамылкова
Па кроках геніяў радка:
І голас стрыманы Пашкова,
І гучны рогат Пташука.
Вядомы сцэнарыст Грыгор'еў
Ажно з Масквы прымчаў сюды,
Перавярнуў паперы горы:
У знакі даўся «Знак бяды»...
Шушкевіч, светлы, як ікона,
Сур'ёзны Панчанка Іван,
Тут Гіль, інтэлігентны Конан.
Тут Дзеружынскі Авяр'ян,
Уласнай песняй апантаны.
Тут кружыць смерч ідэй і тэм.
Тут спеюць новыя раманы
І строфы будучых паэм.
Тут, падзяліўшыся задумай,
Пятро Прыходзька мірна спіць,
Перасцярогшы: «Дык не ўздумай
Ты мой сюжэт перахапіць!»
Патухне ў холе тэлевізар,
Падкіне хтось дасціпны жарт —
Чацвёрты дзень чакаю «візы»
У корпус перанесці скарб.

Пакуль жа ў «домік» свой прасторны
Плятуся з жахам па начах,
Бо той Альшанскі замак чорны
Стаіць, як прывід, у вачах...
А пад падушкай — стос паперы,
І ў сне ён творчы, мой настрой.
І сніцца — стукаюць у дзверы:
— Да вас з візітам Леў Талстой!

* * *

«Журавіны не ўзышлі,
Кавуны пасохлі...»
Над сялібаю начной
Музыка плыла.
Парай дыхалі бакі
Жоўценькай картоплі,
І пацеў шкляны графін
Пасярод стала.

Нечакана з-за стала
Паднялася Насця,
Пераплецена каса
Ніткай сівізны:
— Пажадаем маладым
Радасці і шчасця,
Дзён без бед,
Начэй без слёз,
Веку без вайны! —

Гарманіст устаў са стула,
Рэзнуў гучна «тува-тува»,
А сусед у той жа час
Бубнам «бразг» ды «бразг».

— «Журавіны не ўзышлі,
Кавуны пасохлі»,—
Сваццця павою плыве,
Як не па зямлі,
— «Ка мне хлопцы не прыйшлі,
Каб яны падохлі»...
. . . . . . . . . . . . . .

...З распраклятае вайны
Хлопцы не прыйшлі.

Васількамі з-пад павек
Вочы расцвіталі...
Зноў агортвае ўспамін
Шызаю смугой:
Паўз аконца два браты
Сцежачку таптаЛі,
І была яна братам
Самай дарагой.

Покуль Насця не заснула,
Граў старэйшы «тува-тува»,
А малодшы ў той жа час
Бубнам «бразг» ды «бразг».

Пра любоў сваю браты
Слоў не гаварылі.
Не пыталіся, каго
Выбрала яна.
Запрашалі пагуляць,
Белы бэз дарылі,
Ля варот чакалі ўдвух...
Ну, а тут — вайна.

І пайшлі яны на фронт
З мараю аб шчасці.
Парашылі між сабой:
Скончыцца вайна,
Той, каторы дажыве,
Вернецца да Насці.
...Дый да сённяшняга дня
Насця ўсё адна.

Іх зямелька прыгарнула:
Паў адзін за горад Тулу,
А другі праз нейкі час
Паў за горад Бранск.

«Журавіны не ўзышлі,
Кавуны пасохлі...»
Нажадалі акіян
Шчасця маладым.
Закалелі на стале
Скваркі і картоплі,
І паплыў над галавой
Цыгарэтны дым.

І хавае вільгаць воч
Насця у насоўцы:
«Хлопцы-хлопцы вы мае,
Ў небе жураўлі.
Ка мне хлопцы не прыйшлі.
Хай бы тыя хлопцы
Іншых замуж узялі,
Толькі б хай жылі!»

А гармонік «тува-тува»,
Быццам плача «Тула-Тула».
Злосны бубен «бразг» ды «бразг»,
Быццам «Бранск» ды «Бранск».

## Прызнанне

Лістота танец свой
Адтанцавала,
І сонца
Усміхаецца радзей...
А мне ў жыцці,
Відаць, пашанцавала:
Я не была чужой
Сярод людзей.

Гасціннасцю людской
Не пагарджала
І адчувала боль людскі
Як свой.
На ўсё ў адказ
Спагадліва дрыжала
Мая душа
Напятай цецівой.

Мой лёс то да вышынь
Шпурляў уладна,
То раптам
Пазбаўляў усіх надзей.
А я жыццё
Любіла безаглядна
І больш за ўсё
Любіла ў ім людзей.

Я гэты свет
Такім, як ёсць, прымала
І не схіляла нізка

Галаву.
А я ля сэрца самага
Трымала
Пачуццяў
Трапяткую цеціву.

...Балюча сэрца
Стукнецца у грудзі,
Праводзячы
Апошнюю зару.
Я вас люблю,
Я вас любіла, людзі,
І з небыцця
Вам гэта паўтару.

І ў гэты час,
Калі на Прыдняпроўі
Пад снегам спіць
Пажоўклая трава,
Да вашых сэрцаў
Шле стралу любові
Майго радка
Тугая цеціва.

## На паўстанку

Лёд
Вясёла трэскаўся на рэках,
Звонка абвяшчаў вясну
Шпачок,
І павольна
Рухаўся па рэйках
Пасажырскі
Дызель-цягнічок.

На паўстанку
Бачыла я гэта:
У акно ўглядалася
Да слёз
З-пад квяцістай хустачкі
Кабета,
А да ног яе
Туліўся пёс.

І каго
Вачмі яна шукала
У зялёным
Шумным цягніку,
І каго
З надзеяю чакала
Ад старое вёскі
Убаку?..

Вербы,
Як пытальнікі.
Як кропкі,

Горкія пупышкі над вадой.
...Мо мужык
Паехаў на заробкі,
А ці з'ехаў жыць
Да маладой?

Мо такое абмінула
Гора,
Проста,
Як бывае найчасцей,
Падаліся дзеці жыць
У горад —
Апусцела хата
Без дзяцей.

Што ні возьмеш —
Не трымаюць рукі.
Можа, проста
З восеньскай пары
Пестуны-гарэзнікі
Унукі
Не былі
На бабіным двары.

Мо якая іншая
Прычына...
Дзве хвіліны —
І паплыў вагон.
Варухнула вуснамі
Жанчына,
Быццам прашаптала
Наўздагон:

«Зноў да нас
Не завіталі госці

І дамоў вяртацца нам
Удвох...»
Гладзіла звяра
Па мяккай поўсці,
А сабака
Лашчыўся да ног.

...Дык чаму ж мяне
Узрушыў гэтак
Той чужы
Неразгаданы лёс:
На паўстанку
Сумная кабета
І ля ног яе
Калматы пёс?..

## Пра Адама і Еву

Світальны туман
Наплывае з лагчын.
Над лесам
Ружовіцца неба палоска.
Падзелены свет
На жанчын і мужчын.
Падзелены проста.
Падзелены жорстка.

Няведама колькі
Стагоддзяў назад
(Ідзе пагалоска,
Як ветру павевы)
Адам легкадумны
Свой казачны сад
Змяніў на любошчы
Спакусніцы-Евы.

— Цяпер вам ісці
І сям'ю будаваць,—
Тварэц абвясціў ім
На грэшных мінутах,—
Мужчыне — у поце свой хлеб
Здабываць,
Жанчыне —
Дзяцей нараджаць у пакутах!

Няведама колькі
Стагоддзяў прайшло.
Былі землятрусы, пажары,

Разводдзі.
На грэшнай зямлі
І пякло, і мяло.
Мы з вамі жывём
У касмічным стагоддзі.

Рашыўшы праблему
Надзённых патрэб,
Выгоды мы чэрпаем
Поўнаю жменяй:
Мужчына
За лёгкі хапаецца хлеб.
Жанчына
Дзяцей нараджае што меней.

Я пэўнай парады, вядома,
Не дам.
Ды робіцца дзіўнае нешта
З народам:
Адмовіцца трэсці паласы
Адам,—
І Ева яму пагражае
Разводам.
Разводаў хапае.
Што ж будзе далей?
А юныя Евы
Звышхутка сталеюць.
Навукі і моды.
Дысплей і бабслей.
Вось толькі...
Баршчу наварыць не умеюць.

## Радзімка

> Радзімкі на левай шчацэ лічацца... дрэнная прыкметай — прадвяшчэннем няшчаснага жыцця.
>
> *І. С. Тургенеў*

— Пакінеш ты песню сваю
Недапетай,
І радасць
Сплыве па рацэ,
Бо ты нарадзілася
З дрэннай прыкметай —
Радзімкай
На левай шчацэ.
Няшчаснымі будуць —
Сказала цыганка,—
Дарога твая
І любоў... —
І прэч падалася
Ад нізкага ганка
Пад засень
Вячыстых дубоў.

У люстра шкляное
Глядзелася ўзімку,
Улетку —
Ў рачную ваду,
А сэрца шчымела:
Не змыеш радзімку,
Якая прыносіць
Бяду.

Над хмарай лунаў
Журавель мой крылаты,

Сініцы ж
Не мела ў руцэ:
Ні цёплае хаты,
Ні добрай зарплаты —
Радзімка
На левай шчацэ.

Ды маці вучыла
Не верыць прыкметам,
Казала,
Прыкметы — падман.
Расталі трывогі мае
Непрыкметна,
Як ранішні ў лузе
Туман.

Ласкавае сонца
Глядзела ў радзілку,
Дзе я падарыла
Дачцэ
І вочы, і бровы,
І нават радзімку,
Радзімку
На левай шчацэ...

Дачушка, расці,
Не зважай на радзімку.
Жураўка
Нам трубіць здаля.
Шчаслівы,
Хто мае такую Радзіму,
Як наша з табою
Зямля.

## Пуцявы абходчык

Сярод калін
І скошанай травы,
Дзе вольна пчолам
І салодка восам,
Жыве сабе
Абходчык пуцявы,
Які сябруе
З рэйкамі і лёсам.

Драўляны дом,
Драўляны новы плот.
Пад вокнамі
З вяргінямі гародчык.
Ля дома добры сад
І агарод —
«Хазяін спраўны»
Пуцявы абходчык.

Адгаманіў
Званочкамі лужок,
Сягоння ён —
Куточак сенажаці.
Складзе й абходчык
Роўненькі стажок,
Каб да вясны
Скарміць яго цяляці.

Вось тут бы мне
Праводзіць цягнікі
І кожную па паху

Ведаць зёлку,
Саліць у дзежцы
Хрумсткія гуркі
І абдымаць абходчыка
На золку...

На шыбе зайчык сонечны
Дрыжыць.
Як птушаня,
Садзіцца на галінку...
Я б выйшла тут
І засталася жыць,
Ды мой цягнік
Не мае тут прыпынку.

Дарога без канца —
Мой вечны крыж.
Неўладкаванасць —
Мой жыццёвы почырк.
...Крычыць:
— Ну, што, прыгожая,
глядзіш? —
Мужык вясёлы,
Пуцявы абходчык.

Сярод калін
І скошанай травы
Не здарыцца нічога
Паміж намі.
Бо не адзін
Абходчык пуцявы
Жыве.
А з жонкай
І трыма сынамі.

## Уначы

У мяккі змрок
Захутаўся лужок.
У садзе дрэмлюць дрэвы
Без прынукі.
І зорачкі
Бліскучы рычажок
Прыцішвае
Усе зямныя гукі.
Ізноў прыходзіць ноч
На змену дню —
Сяброўка закаханых
І паэтаў.
Я слухаю начную цішыню:
У ёй трывожна дыхае
Планета.
Такі няпросты
Чалавечы лёс,
А наш, жаночы век
Такі кароткі...
Ноч аднае —
Пара самотных слёз,
А іншай ноч —
Кахання міг салодкі.
І мне не спіцца ў гэты
Позні час,
Калі плывуць
Нячутна ў мора рэкі.
Матулі сніцца
Даваенны вальс...
Дачушцы сніцца
Грукат дыскатэкі...

## Каханне

Вясною рака разальецца.
У спёку рака абмялее.
Узімку пад шыбай сцюдзёнай
Трывожна рака заблішчыць.
Каханне — заўжды таямніца,
Яно не камета Галея,
Сустрэчу з якой астраномы
Дакладна змаглі разлічыць

Мо ім, як агнём, апякуся.
Яшчэ не паспеўшы сагрэцца.
Яно застанецца загадкай,
Як позірк чужы з-пад павек.
Ім можаш надыхацца ўволю.
З ім можаш зусім не сустрэцца
За ўвесь свой жаночы кароткі,
Напоўнены бурамі век...

## Ля акна

Ты, сяброўка,
Цудоўна жывеш
За ласкавым
Уважлівым мужам.
Ты мяне легкадумнай
Завеш,
Кажаш,
Хлопцы валочацца гужам.
Не віна ў тым мая,
А бяда,
Што з адзіным
Не шчасціць сустрэцца.
...Час бяжыць,
Як рачная вада,
І сумуе самотнае сэрца.
Калі ў мужа
Ты спіш на плячы,
Прыпыніўшы
Абдымкі-гаворкі,
Я акно расчыняю
Ўначы
І гляджу
На далёкія зоркі.
Зорны коўш,
Залатое цаўё.
Долу вільгаць нябачная
Льецца...
Я гукаю
Каханне сваё
І не ведаю,
Ці адгукнецца.

* * *

Рачная хваля
Пад вярбою ніцай
Віруе,
Ажно глянуць страшна ўніз...
Зноў месячык
Цыганскай завушніцай
Над вечаровым берагам
Павіс.

Зноў абяцанне шчодрае
Ў прыродзе,
Што ёсць любоў,
Што шчасце не міне.
Вось гэтак лета
І ў мінулым годзе
Наабяцала
Зманлівага мне.

Шмат абяцаў мне
Голас твой цнатлівы
І позірк неадступны
З-пад ілба.
Жывыя сведкі —
Месяц зіхатлівы,
І цёмны вір,
І ніцая вярба.

* * *

Вы юнай
Помніце мяне:
Былі парывістыя
Рухі,
І гнуткія,
Як голле,
Рукі,
І беглі косы
Па спіне.

І вы тады
Былі юнак —
Усмешка,
Дужыя далоні,
А сёння —
Сівізна на скроні,
Пражытых дзён
Няўмольны знак.

І хоць павольным
Стаў мой крок,
Сабе здаюся я
Той самай
Дзяўчынкаю...
Ды кліча «мамай»
Мяне
Дзяўчынка-каласок.

Як міг, жаночы век
Міне...

Каторы раз
На вас употай
Пагляд скіроўваю
З пяшчотай:
Вы юнай
Помніце мяне.

## Ліпень

Незразумелай
Нейкаю віною
Напоўніў ліпень
Зрэнкі карых воч.
За ўсім,
Што адбываецца са мною,
Нябачны нехта
Сочыць дзень і ноч.

Грывастай хмаркі
Конік закілзаны,
Бліскучаю вуздэчкай —
Маладзік.
Будан прасторны
З жэрдак абчасаных
Праз ветравое шкло
Мільгнуў —
І знік.

Сысці б,
Заначаваць на свежым сене.
У сумцы — хлеб,
Вада ў крыніцы ёсць.
Хай па шашы
Крылатыя вяселлі
Імчаць да зор
Чужую маладосць.

А мне б
Адно з палону вырваць сэрца,

Са сцежкі лёсу збочыць,
Бы з шашы.
...Ды той, нябачны,
З-за пляча смяецца:
Не цеш нязбытнай мараю
Душы.

## Кветкі мамам

Ранак сакавіцкі
У аконнай раме.
Шчодра паліваю
Парастак-альвас.
...Ці заўсёды «дзякуй»
Мы гаворым маме
За яе пяшчоту,
Клопаты пра нас?

На таежных сцежках,
На будоўлях БАМа,
На касмічных трасах
Сніцца па начах,
Як над намі ціха
Твар схіляе мама,—
Ласка і трывога
У яе вачах.

Помніш, як пісалі
**«Мама мыла раму»**,
Дружна над старонкай
Соп наш першы клас?
Дзеці вельмі часта
Думаюць пра маму,
Ну, а мамы — вечна
Думаюць пра нас.

...З мамай я карміла
Крошкамі сінічку,

З мамаю хадзіла
Ў ягады не раз.
Мама мне пашыла
Клёшную спаднічку,
У якой кружыла
Я свой першы вальс.

Нашы мамы шылі,
Мамы мылі рамы.
Мамы нарадзілі,
Выхавалі нас...
Сонца вам і кветак,
Дарагія мамы.
Расцвіце аднойчы
Сціплы мой альвас.

## У чытальнай зале

Робяць тут завочнікі
Кантрольныя,
Лектар
Падрыхтоўвае канспект,
Пішуць вучні сачыненні
Школьныя,
А дашкольнік —
Адкрывае свет.

Вырваўся раптоўна ўсхліп
Няпрошаны
У дзяўчынкі
З кніжкаю ў руках.
Слёзы,
Быццам буйныя гарошыны,
Спакваля пабеглі
Па шчаках.

Пышны бант
З блакітнай аблямоўкаю
Задрыжаў
На тоненькай касе.
Галаву прыгнула —
Бо няёмка ёй,
Што вось-вось прыкмецяць
Слёзы ўсе...

І — не адарвацца
Ад аповесці,
Дзе прымусіў плакаць

Нечы лёс...
Мілая дзяўчынка,
Не саромейся
Гэтых чыстых
Непрытворных слёз.

З дзіўнымі прыгодамі
І мроямі,
Сябра наш у шчасці
Ці бядзе,
Кніга
За любімымі героямі
Па жыцці, як компас,
Павядзе.

Кніга
Ад маленства і да старасці
Вучыць нас
Глыбока адчуваць:
Шчыра падзяляць
Чужыя радасці
І чужому гору
Спачуваць.

## Удача

Чакай, удача,
Шызая галубка,
Не рвіся з цёплых
Чалавечых рук,—
Над прорваю
Каменная прыступка,
Там сцеражэ
Пранырлівы каршук.
І да майго акна
Ты завітала
Так нечакана
У веснавыя дні...
Хачу, каб ты
Заўсёды прылятала
На залатое зерне
Дабрыні.

## Усмешка

Калі іх столькі праміпула
(Сорак!),
Маіх гадоў,
Бы ў хуткаплынным сне.
Там, за туманам,
Глiністы пагорак,
Які апошнім ложкам
Стане мне.
Сыду ў нябыт
Начной гадзінай шэрай
Ці ранкам маладым
Насустрач дню...
Чым я жыла?..
Надзеяю і верай
У чалавечых сэрцаў
Дабрыню.
Пакуль жыву,
Душой не схаладзею,
Хоць снег узросту
Ляжа мне на скронь.
Усмешка тоіць
Веру і надзею,
Як Вечны
Чалавечнасці агонь.

## Абхазіі

Ля самага сіняга
 Чорнага мора,
Дзе пальмы застылі,
Нібы вартавыя,
Задрэмле трывога,
Забудзецца гора
І промні сагрэюць душу
Залатыя.

Цвіце нават кактус,
Калючы, як вожык —
Такі незвычайны ён,
Край гэты ветлы.
Усё расцвітае —
І чэрвеньскі дожджык,
Як слёзы нявесты,
Празрысты і светлы.

У белых папахах
Над морам вяршыні.
Паветра
Напоўнілі водарам ружы.
Балюча вачам
Ад бяскрайняе сіні.
...Ізноў ля акна майго
Ластаўка кружыць.

Зляпіла гняздзечка тут
Смелая птушка.

Шчаслівыя
Гэтым птушыным даверам,
Яе не пакрыўдзім
Ні я, ні дачушка,
Ні крыкам раптоўным,
Ні брыдкім намерам.

Мы самі, як ластаўкі,
Мчалі да мора
З-пад хмарнага неба
Сваёй Беларусі.
Мой родны куточак,
Ссівелы ад гора,
Чакае мяне.
Да яго я вярнуся.

Абхазія,
Дзякуй за шчодрасць абедаў,
За танец з кінжалам,
За ясныя промні.
Мо больш я ніколі
Сюды не прыеду,
А ластаўку ўбачу —
Абхазію ўспомню.

* * *

*Памяці М. Валошына*

Ты месца пахавання
Выбраў сам
Над хвалямі марскімі,
На вяршыні.
Малы грудок,
Адкрыты ўсім вятрам,
Хаваецца
У паднябеснай сіні.
    Меў рацыю.
    Калі б схавалі прах
    У людным месцы,
    Кожны б
    Тупаў міма:
    Той — з сумам,
    Той — з цікаўнасцю ў вачах,
    Той — з поснай,
    Абыякаваю мінай.
А вось сюды,
На гэту вышыню,
З сабой узяўшы
Памяць і адвагу,
Ўзыходзіць,
Каб парушыць цішыню,
Той, хто нясе
Сапраўдную павагу.

* * *

Уночы хваля
Жаласліва ные,
Плюецца пенай белаю
На мол.
...Тут грабяні знаходзяць
Касцяныя
З малюнкам
Дзіўных кветак і жывёл.
Бясспрэчна,
Што былі яны патрэбны
Шаўковым косам
Скіфскіх прыгажунь.
Хто вырабляў старанна
Тыя грэбні —
Юнак
Або стары, сівы як лунь?..
Даўно сышлі ў нябыт
І той рамеснік,
І дзевы,
Што гулялі па садах.
Аблiччы старажытныя
Равеснік
Хавае —
Бессмяротны Кара-Даг.

* * *

Пад хмараю ззяе
Задумлівы Сірыус.
Сузор'і, што жмені
Клан-Дайкскіх пяскоў.
Тут неба,
Нібы старажытны папірус,
Хавае ў сабе
Таямніцу вякоў.
Інакшае мовы,
Інакшае веры
З далёкага краю
Па хвалях марскіх
Дзяўчыну-рабыню
Прывёз на галеры,
Драпежны, заможны,
Удачлівы скіф.
Завяла ў няволі,
Не вынесла гора,
Памерла дзяўчына.
Легенда жыве.
А слёзы рабыні —
Салёнае мора,
Абмыеш ім рану —
Уміг зажыве.

* * *

Я далёка
Ад ціхай Радзімы,
Ад Палесся
І белых буслоў.
Засынаю
Ў чатыры гадзіны,
Ашалеўшы
Ад думак і слоў.
    На душы
    Непазбыўная вера
    У вяртанне
    На родны парог.
    ...Вунь блакітная зорка —
    Венера,
    Як далёкі
    Гарыць васілёк.
Перакрыць бы
Шляхі успамінам
Хоць на міг,
Хоць на гэтую ноч...
Толькі зорка
Гарыць напамінам
Аб блакіце
Валошак і воч.

* * *

Сонца лье
Трапяткое праменне,
Ўецца пляж —
Залаты паясок.
Лашчыць хваля
Сухое каменне
І цалуе
Гарачы пясок.
Трэпле косы мне
Ветрык дасужы,
Падымае
Стракаты падол,
І духмяныя
Чайныя ружы
Асыпаюць
Пялёсткі на дол.
Вабіць мора
Вільготным дыханнем.
У паветры
Разліты падман,
Ад якога здаецца
Каханнем
Наш кароткі
Курортны раман.

* * *

Блакітнага заліва
Піала,
Хваль неспакойных
Хор гучнагалосы...
Гара з драпежнай назваю
«Піла»
Грызе зубцамі вострымі
Нябёсы.
    Гара з драпежнай назваю
    «Піла» —
    Не цацка.
    Будзь, вандроўнік, асцярожны!
    ...Лунае чайка.
    Злом яе крыла,
    Як злом майго брыва
    У міг трывожны.
Ніколі
Палахлівай не была.
Усё жыццё
Над прорваю смяюся.
Гара з драпежнай назваю
«Піла»,
Я да цябе
Аднойчы дабяруся!

## Незабудкі памяці

*(паэма)*

Усё тлумачыць
Думкаю цвярозай,
Не мець даўгоў,
Салідна выглядаць,
Тлуміць галовы
Безаблічнай прозай,
Якую найлягчэй
Перакладаць...

Пакуль душу радкамі
На паперу
Выкладваць можа
Чалавечы род,
Паэзія,
Ніколі не паверу,
Каб ад цябе адмовіўся
Народ.

Паэзія,
Сляза душы балючай,
Як ні трывай —
Ты вырвешся з павек.
...Як конь шалёны
Над смяротнай кручай,
Падняўся на дыбкі
Дваццаты век.

Дзень сённяшні —
Кароткі міг на одум
Дзяржавам,

Незалежна ад сістэм.
На схіле веку
Беспрытульна одам.
На схіле веку —
Зорны час паэм.

Узяцца рызыкнуўшы
За паэму,
Ваганні я ў сабе
Перамагла,
Тым больш
Што доўга не шукала тэму:
Яна з маленства
Ува мне жыла.

Каб ведаць мне, малой,
Тады пра гэта,
Што дзедаў лёс
Патрапіць у радкі,
Што мне наканаваны
Шлях паэта,
Што праз гады
Надыдзе час такі:

Адным як помнік,
Іншым нібы помста.
Знясе ілжывы накіп
Часу вір
З абліччаў тых,
Хто быў смяротным проста,
І гэтага,
Што зваўся «Правадыр».

* * *

Дзед скончыў акадэмію
Лясную.

З паперамі
Садзіўся да стала,
Рэйсфедэрам
Праводзіў валасную —
Яна,
Што волас,
Тонкаю была.

Над калькамі сядзеў,
Як замятала,
У іншы час
Быў кабінетам лес.
Яму душы сваёй
Аддаў нямала.
Быў і яшчэ
У дзеда інтарэс:

Бярэзіна.
Яе крутыя хвалі
Рабілі прыгажуняю
Раку
І неаднойчы
Дзеда калыхалі
На золку
Ці змярканні ў чаўнаку.

Ён сам смаліў чаўнок.
Пакрышку вудзіў.
І супраць праўды
Я не паграшу,
Калі скажу:
Любілі дзеда людзі
За чулую,
Адкрытую душу.

Але спазнаў і подласць ён
Людскую
(Хоць не любіў
Аб тым распавядаць),
Калі у акадэмію
Марскую
Па выкліку
Паехаў выкладаць...

* * *

Крык чаек
Перасільваў шум прыбою...
І раптам
Гучны голас чуе дзед:
«Зямляк,
Дык вось дзе стрэліся з табою,
Ну, дай абняць,
Нагледзецца як след!»

І сапраўды,
З усмешкаю шчарбатай
Глядзеў на дзеда
Грышка Лахманоў:
Бацькоўскія
Стаялі побач хаты,
Калі яшчэ гулялі
Без штаноў.

Хоць Грышку дзед
Любіў не асабліва,
Але ж узрушыў дзеда
Той парыў.
І ўжо пасля,
За пенным куфлем піва

Ён з Грышкам шмат
І шчыра гаварыў.

Казаў:
«Ну, што з таго,
Што побач мора
І сонца чыстым золатам
Гарыць.
На нашай мове
Ды пра наша гора
Няма, мой братка, з кім
Пагаварыць...»

А Грышка ўсё
Уважна гэтак слухаў,
Падняўшы позірк,
Поўны п'яных слёз.
Старанна падліваў
У дзедаў куфель
І ў тую ж ночку
Настрачыў данос.

* * *

Тым ранкам з мора
Вецер дзьмуў халодны.
Пачуў:
«Маковіч,
Спешна ў кабінет!»
Чакалі там.
Апошні раз свабодны
Пераступіў парог
Мой бедны дзед.

Энкэвэдэшнік —
Зразумеў адразу.

Адчуў цяжар страшэнны
На плячах...
А той пытаў
І не чакаў адказу,
І не было
Цікаўнасці ў вачах.

А вочы —
Два лязы з бяздушнай сталі,
Нацэленыя пільна
З-пад павек:
«Наш мудры правадыр
Таварыш Сталін
З вялікіх —
Найвялікшы чалавек.

Вы ўчора шмат чаго
Распавядалі
Пра Сталіна
І пра ягоных жон.
Сур'ёзнасці злачынства
Не ўяўлялі
Або свядома
Лезлі на ражон?

Няхай сабе былі б вы
Непісьменны,
Бязграматны якісьці
Селянін...
Такі выкладчык —
Прыклад вельмі дрэнны.
Збірайцеся са мной,
Грамадзянін!»

* * *

Навошта было б яму ехаць,
Навошта,
Каб ведаць, чым скончыцца
Гэты круіз...
І вось у Бабруйск
Раўнадушная пошта
Даставіла раптам
Пасылку і ліст:

«Прыехаць дамоў
Давядзецца не скора.
Я сам вінаваты.
Як можаш, прабач.
Відаць, павязуць
Да інакшага мора.
Дзяцей пацалуй
І дарэмна не плач.

Мой новы касцюм,
Паўбацінкі, сарочку
Не трэба хаваць.
На базар аднясі.
Цяпер я, Надзейка,
Сям'і не памочнік.
Хоць рэчы мае
На харчы прадасі».

Не раз перачытвалі
Ліст той балючы...
А ў скрынцы
Ніякіх абноў не было,
А толькі насыпана ў торбу

З анучы
Каменьчыкаў крымскіх
Чатыры кіло.

* * *

Прайшлі гады
Перадваенным строем,
Затым пажар Айчыннай
Адгудзеў.
Хто здраднікам зрабіўся,
Хто героем,
Хто ў полымі згарэў.
А дзед — «сядзеў».

Вядома, не сядзеў ён
Склаўшы рукі.
Там за жыццё
Ішлі свае баі.
Унучкі нарадзіліся
І ўнукі —
І ён вярнуўся дзедам
Да сям'і.

Прыехаў і да нас:
«Ну, як ты, дочка?..»
І не хаваў
Скупых мужчынскіх слёз.
Мне помніцца,
Было мне пяць гадочкаў,
Паркалю на сукенку мне
Прывёз.

Я шмат чаго
Яшчэ не разумела,

Ды адчуваўся
Нейкі ў ім надрыў:
Садзіўся на канапу ён
Нясмела
І непрывычна мала
Гаварыў.

Маю руку
Трымаў ён асцярожна,
Але зусім не ўмеў
Гуляць са мной.
  На кожны гук
Аглядваўся трывожна,
Бы адчуваў кагосьці
За спіной...

* * *

  Гасціла я ў дзеда і бабкі.
Старэйшай
Унучкай была.
Як успомню,
Стары
«Запоем» чытаў
І раманы, і вершы
Да позняй паўночнай пары.

Бывала,
Сядзелі пад золкаю зоркай
Мой дзед
І кульгавы паромшчык Цімох.
Узяўшы па чарцы
Гарэліцы горкай,
Паціху
Заводзілі ўдвох.

А песня была,
Што глыбокая рана.
Балюча
Бярэдзіла сэрца яна:
«Как дело измены,
Как совесть тирана,
Осенняя ночка
Темна...»

А што іх радніла,
Не ведаю й сёння,
Бо дзед жа «сядзеў»,
А Цімох — ваяваў.
...Злы вецер гудзеў
Над Бярэзінай соннай
Ды з вербаў
Лісцё абрываў.

* * *

Я помню
Той маскоўскі ранак хмуры,
Калі з Бабруйска
Напісалі мне,
Што адбыліся
Дзедавы хаўтуры:
«Памёр па глупству,
Па сваёй віне...»
Віна — віно...
Але ці ў гэтым справа?
Я часта бачу дзеда,
Як засну...

Час вінаватых высветліць
І правых.

Так.
Час засведчыць кожную віну.

А той, што быў іконаю
Нязменнай
І выклікаў
Амаль свяшчэнны жах?..
Партрэт я помню:
Вусы, фрэнч ваенны,
Дзяўчынка з пышным бантам —
На руках.

Ён псеўданім абраў свядома
«Сталін».
І сам зрабіўся цвёрдым,
Як метал,
Сталёвым,
Каб стаяць на п'едэстале.
Ды гэта быў
Крывавы п'едэстал.

* * *

Ну, вось і ўсё.
Радкі журбы і болю
Аддам на ваш
Бескампрамісны суд.

Паэмаю
Нацешыўшыся ўволю,
Мо ёй смяротны вынесуць
Прысуд.

Тады прасіць я буду
Вецер хуткі,

Каб ён туды
Душу яе аднёс,
Дзе на магіле дзеда
Незабудкі
Глядзяць
Вачыма яснымі нябёс.

## Сустрэча з юнацтвам

*(аўтабіяграфічная паэма)*

*Памяці бацькі*

Трапяткое галлё
Нахіляюць рабіны.
Лашчыць вецер
Мае валасы.
Быццам жытнія хвалі,
Плывуць успаміны:
Лета... ліпень...
Нагрэтыя сонцам драбіны...
А вакол —
Каласы, каласы...

Палявая дарога
Прастуе жытамі.
Бацька лейцы
Трымае ў руках.
Глуха стукае конік
У дол капытамі.
Пыл дарожны да неба
Узыходзіць слупамі,
Асядае мукой
На сцяблах.

На пагорак павольна,
Бадзёра з пагорка
Конь калгасны
Нас з бацькам вязе.
...Колькі помню я бацьку,
Ён насіў гімнасцёрку,
На парэпаным рэмні

Бліскучую зорку
Ды асколак
Нямецкі ў назе.

Ноччу сніў,
Як грымелі Дняпра пераправы,
Як пажары пад Бранскам
Гулі...
Ён вярнуўся з вайны
Да галоўнае справы:
Працаваць на зямлі,
Каб шумелі атавы,
Шамацелі калоссем
Палі.

Хлебароб,
У прадзедаўскай працы патрэбу
Як ніколі адчуў у вайну.
Вызваляў — цалаваў ён зямельку.
І небу,
І раллі жыццядайнай,
І жытняму хлебу
Ён сапраўдную зведаў
Цану.

Я кірпатым падлеткам
Сядзела ля таты.
Воз вясёла
Каціўся з гары.
Тату ветла віталі
Жанкі і дзяўчаты.
Пасміхаўся зычліва —
Расце памагаты —
Воз абгледзеўшы,
Конюх стары.

* * *

Пазаві —
І мінулае зноў уваскрэсне:
Бацька ў полі
З цямна да цямна...
Раптам вецер вандроўны
Прынёс напрадвесні
Аб Сібіры
Гарачыя новыя песні,
Загучала у іх:
«Цаліна!»

«Цаліна» —
Як нязнаная зорка-планета,
Замігцела
Здалёку яна.
І бацькі ўсё часцей
Гаварылі пра гэта —
Загалоўкамі гучна
Гукала газета —
«Цаліна!
Цаліна!
Цаліна!»

Ад'язджалі мы спешна,
Зусім не ўрачыста.
Мама бацьку ўшчувала:
«Сям'я ж...»
Вочы бацькі
Свяцілі той дзень прамяніста:
«Вы — не проста сям'я,
Вы — сям'я камуніста!»
(Сціплы скарб
Пакавалі ў багаж.)

Нас, дзяцей,
Не цікавілі хатнія зборы.
Падарожжа
Было па душы.
Далячынь захапіла:
Уральскія горы,
Веліч Волгі,
Бяскрайняга стэпу прасторы,
Лёд патрэсканы
На Іртышы.

Маме вельмі трывожна,
Дачушкам — не страшна.
Цэлы тыдзень
Імчаў нас цягнік.
Вось, нарэшце, Алтай.
Снег разлезлы, як каша.
«Праз гадзіну —
Паспеліха,
Станцыя ваша!» —
Абвясціў
Пажылы праваднік.

* * *

Помню даўні урок,
Калі, рускае мовы
Не засвоіўшы
Добра яшчэ,
Перад класам цікаўным
Шукала я словы,
Адчуваючы,
Як за адказ бесталковы
Яркім полымем
Шчокі пячэ.

Першы раз чырванею...
Дагэтуль у школе
Я вучылася
Толькі «на пяць».
І батаніку ведала
Добра даволі,
Тэму тую, «Прылады»,
Магла б я адолець
Без падручніка
(Што і казаць...).

Ну, а тут...
«Скажет новая нам
Ученица...»
Мой язык здзервянеў,
Як на грэх.
У рэшце рэшт я прамовіла:
«Ну, капаніца...»
І здзівіўся настаўнік: «Как, как?»
«Капаніца...» —
І над партамі —
Выбухам смех.

Мне вядомы прылады —
Сахор і лапаты.
І сялянская праца ўваччу.
Мне, дзяўчынцы вясковай,
Не ведаць пра грады?!
Але ж раптам і граблі ў Сібіры —
Не граблі?..
І таму я ў адчаі
Маўчу...

Час імчыць —
Зажывае любая балячка.

Я прывыкла
Да лютай зімы.
Па-мясцоваму «чёкала»,
Як сібірачка,
Называла калыску дзіцячую
«Качка»
І насіла
«Доху» і «пимы».

...Беларусь,
Ты ў маленстве мяне абдавала
Цёплым водарам
Хвоі і траў.
І калі немаўляткам
Мяне спавівала,
«Перапёлачку»
Маці мне ціха спявала —
Гэты спеў
У душу мне запаў...

* * *

Ён над лёсам маім,
Нібы зорка над полем,
Узышоў,
Паэтычны радок:
Пушкін мудраю казкай
І одаю волі,
І Ясенін журбой
Па валошкавым полі,
І зарою барвоваю
Блок.

Паланіла душу
Невыказная сіла,

Непаўторная музыка
Слоў...
Тую раннюю зорку
Жыццё не згасіла.
...У трынаццаць гадоў
У сабе я насіла
Таямніцу
Нясмелых радкоў.

Вы наведалі школу
Ў зімовае ранне,
Журналіст
І былы франтавік.
Запрасілі мяне вы
На літаб'яднанне.
Я пайшла,
Перамогшы сваё хваляванне.
І сягоння я помню
Той міг.

А якою мне гордасцю
Сэрца напоўніў
(І цяпер, праз гады,
Не схлушу)
Верш мой першы ў газеце
Пра рэчку і поўню.
(Праўда, назву газеты
Дакладна не помню.
Мо збяруся калі,
Напішу...)

Так, над кожным
Палае свой знак задыяку.
Давялося і мне
На вяку

Знакамітых паэтаў
Паслухаць адзнаку.
Але выказаць сёння
Хацела б падзяку
Я і першаму
Кіраўніку.

Як садоўнік,
Крануўшы вясною пупышку,
Уяўляе
На голлі плады,
Стрэўшы першыя вершы,
Адметныя крышку,
Марыць ён, як пашчасціць,
Сапраўдную кніжку
З імем вучня сустрэць
Праз гады.

Пра паэзію думае,
Не пра выгоду,
Каб аднойчы,
Да кніжных паліц
Падышоўшы ў гурме
Маладога народу,
Кніжку тоўстую ўзяўшы,
Нібы ўзнагароду,
Пахваліцца:
«З маіх вучаніц!»

Пачаткоўцы,
Да вас маё шчырае слова.
Маё ціхае слова —
Да вас:
Час мінае,
І з часам мацнее выснова,

Што высокага нашага ўзлёту
Аснова —
Тыя людзі,
Што верылі ў нас.

* * *

За раён
І за колас асобны ў адказе
Бацька ночы праводзіў
Без сну.
Ледзь развідняе —ў стэп.
І райкомаўскі «газік»
Роў сярдзіта,
З ліпучае коўзкае гразі
Колы рваў
І злаваў на вясну.

Праглядаючы зводку сяўбы
Па раёну
(Акуляры
Заўжды на ілбе),
Бацька згледзеў мой верш
У газеце раённай.
Захадзіў па пакоі
І раптам натхнёна
Мне пачаў гаварыць аб...
Сяўбе.

«Гладка, дочка, усё
У цябе зрыфмавана.
Тут і рэчка,
І поўня ўгары...
А паехалі разам
У стэп заўтра рана.

Паглядзі толькі,
Колькі зямлі узарана,
Як курыцца яна
На зары!

Ды на плошчах такіх
Каб пасеяць пшаніцу
Мы не марылі нават
У сне.
Але ж людзі —
Выдатныя, трэба згадзіцца.
Бось на гэтае ўсё
Табе след падзівіцца,
Каб пісаць
Аб сапраўднай вясне...»

Я тады паспрачалася з бацькам,
Дурніца
(Мо на тое яна,
Маладосць?):
«Бачыш ты, як там сеялкі
Сеюць пшаніцу,
Як мужык у ватоўцы
На трактар садзіцца,
Я — вясновай ракі
Прыгажосць».

Бацька-бацька,
Я рыфму знаходзіць умела.
Я шукала
Сцяжынку сваю.
Ды нямала вятроў
І дажджоў прашумела
Над маёй галавой,
Покуль я зразумела

Сэрцам
Мудрую праўду тваю...

Над магілай тваёй
У блакітным прыволлі
Перапёлка малая
Звініць.
Нахіляюць рабіны
Ірдзянае голле.
А вакол цябе — поле,
Жытнёвае поле,
Наша роднае поле
Шуміць...

* * *

У шаснаццаць гадоў
Безліч мар пра каханне.
І аднойчы
З'яўляецца ЁН.
Так было і са мною.
Штовечар — спатканне.
Белым воблачкам пары
Лунала дыханне,
І канькамі звінеў
Стадыён.

Поўня цьмяна жаўцела
Талеркаю мёду.
Снег кружыўся
Над гладдзю катка.
Адбівала
Люстэрка вячэрняга лёду
Нашых рухаў узнёслых
Цудоўную згоду,

І ў руцэ
Замірала рука...

Дзе яна,
Чысціня той наіўнае мары,
Дзе пачуццяў
Шчаслівы давер?
Час паклаў свой адбітак
На душы і твары.
Ці сягоння пазнаў бы ты
Позірк мой кары,
Ці пазнала б цябе
Я цяпер?..

Толькі памяці нашай
Няма адпачынку,
Б'ецца памяць, як сэрца,
Ўнутры.
І за кожным сягонняшнім
Нашым учынкам
Пільна сочаць той хлопчык
І тая дзяўчынка
З незабытай
Юнацкай пары.

Ім, шчаслівым,
І ў люты мароз не халодна.
...Я ўжо —
Маці дарослай дачкі.
Быць наіўнай і шчырай,
Як быццам, не модна.
Але кожнаму часам
Адчуць неабходна
Бескарыслівы
Поціск рукі.

* * *

Мы, хлапцы і дзяўчаты,
Канчаем дзесяты.
Над Алеем [1]
Сустрэлі вясну.
Пад гітарныя спевы
Пакінулі парты.
Будавалі ў пасёлку
Тады элеватар —
Нас паслалі
На практыку ў СМУ [2].

Нам, дзяўчатам,
Прараб гаварыў кампліменты:
«Я б такім не дазволіў
Рабіць!» —
І, мяцёлкі ўручыўшы,
— Трымай інструменты! —
Ён дадаў незласліва:
«Мяціце, «студэнты»,
Вам абы тут гадзіны
Адбыць».

Што ж уразіла нас на будоўлі —
Маторы,
Краны,
Словам, тэхнічны прагрэс?
Не. Цяжкія насілкі
З цэментным растворам,
Што цягалі жанчыны па сходах
Угору —

[1] Алей — рака ў Алтайскім краі.
[2] СМУ — будаўніча-мантажнае ўпраўленне.

Там, здаецца,
Парожні б не ўзлез...

І казалі хлапцы
(Мы былі паасобку),
Што электрык
Прамову з прамоў
Гаварыў,
На шчытку націскаючы кнопкі,
І што ў ёй на паперы
Былі б толькі кропкі
Замест знятых цэнзураю
Слоў.

Так вытворчую практыку
Мы «адбывалі».
Памяшканні патроху
Мялі.
Людзі самыя розныя
Там працавалі,
Бо тады адусюль
На Алтай прыязджалі —
З Беларусі
Таксама былі.

І аднойчы за сценкаю
Чую у хаўрусе:
— Ганна! — Га? —
— Дай там трапку! — Бяры! —
Уварваліся раптам
Вятры з Беларусі:
— Га-га-га,— загукалі
Далёкія гусі...
— Ры-ры-ры,—
Зараўлі трактары.

І шчымлівае нешта
Мне сціснула горла,
Нешта блізкае,
Нешта сваё...
І да воч падступіла
Салёнае мора:
Гэта радасць не радасць
І гора не гора,
Гэта —
Роднае слова маё.

* * *

Колькі іх на зямлі,
Непрыкметных Паспеліх,
Станцый нашых юнацкіх
Надзей.
Там маленькія
«Райскія» яблычкі спелі.
Там з сястрой мы дарослымі
Стаць не паспелі.
Гэта там я,
Як болей нідзе,

Сябравала аддана.
І трэба прызнацца,
Што да гэтай пары
Зберагла
Фотаздымкі вясёлага
Школьнага брацтва.
А сяброваж надзейных,
Як тыя,
З юнацтва,
Я дагэтуль знайсці
Не змагла.

Дык няўжо ж мы з узростам
Душою мялеем?..
Помню радасны той
Неспакой...
Школьны вальс...
Адчуванне таго,
Што сталеем...
Дзікіх ягад чырвоны агонь
За Алеем —
Незабыўнай
Юнацтва ракой.

Усміхнуся скрозь слёзы
На жарт развітальны.
Кожны зычыць мне
Нешта сваё.
...Засталіся сябры
На пероне світальным.
На пероне
З паглядам трывожна-пытальным
Засталося
Юнацтва маё...

* * *

Беларусь нас чакала.
...Хутчэй бы дадому!
У бацькоў —
Нецярплівасць дзяцей.
Ды яно ж,
Як спяваюць у песні вядомай,
Чым далей завядзе нас
Дарога ад дому,
Тым дарога дамоў
Карацей.

І калі перасеклі
Уральскія горы
(Быццам ён спачуваў нам,
Дзівак),
Наш цягнік заспяшаўся,
Хоць быў ён не скоры.
І падслухалі колы,
Пра што мы гаворым,
І застукалі:
Так-такі-так!

На радзіму!
Здаваліся з кожнай хвілінай
Дзень — святлейшым,
Бацькі — маладзей.
Тут была зелянейшай
Лугоў зяляніна,
І ярчэйшай
Палёў залатая тканіна,
І дабрэйшымі
Твары людзей.

Быццам роднае ўсё тут,
І ўсё-ткі нанова
Я цябе пазнавала,
Зямля.
Спасцігала цябе,
Мая родная мова,
І шукала нанова
Патрэбнае слова,
Як шукае яго
Немаўля.

* * *

Пасталелі за год
Маладыя рабінкі,
Што схіляюць галлё
За сялом.
Дробны восеньскі дождждык
Абсыпаў сцяжынкі,
І жанчыны даўно
Праспявалі дажынкі,
Да якіх не дажыў
Аграном.

Доўгі дзень
І кароткая ноч
Хлебароба
Ад сяўбы
І да новай сяўбы.
Лёс у шэсцьдзесят з ім
Абышоўся сурова:
Невылечная бацьку
Зваліла хвароба.
Ды не чулі ад бацькі
Жальбы.

Ён ляжыць сярод поля,
Якое салдатам
Сам уласнай крывёй
Асвяціў.
Да якога вярнуўся жывы
Ў сорак пятым,
На якім быў і сейбітам ён,
І аратым,
І якому жыццё
Прысвяціў.

Шлях да могілак ціхіх
З журбою пагорка
Паўз іржышча,
Сівое ад слёз.
Таямніча мігціць
Вечаровая зорка.
Над бацькоўскім пагоркам
Спакойна і горка,
Быццам кнігу,
Гартаю свой лёс...

Людзі — смертныя ўсе.
Неаднойчы пра гэта
Нагадае
Жалобная медзь...
Толькі б знаць:
Будзе вечна кружыцца планета,
Бегчы ў полі дарога
Праз мірнае лета
І наўсцяж
Будзе жыта шумець.

## Змест

**Басуматрава С.**

**Б 27** Далеч-далячынь: Вершы і паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 142 с.: іл.

ISBN 5-340-00634-4.

Басурматрова С. Даль-далека.: Стихи и поэмы.

Лірычная гераіня кнігі, нягледзячы на жыццёвыя цяжкасці, няўдачы і памылкі, знаходзіць у сабе сілы для таго, каб паверыць у чалавечую дабрыню, вышэйшую справядлівасць, бессмяротнасць чалавецтва.

У кніжку таксама ўключана паэма «Незабудкі памяці», якая адлюстроўвае адзін з найцяжэйшых момантаў у жыцці нашага народа — час культу асобы і шматлікіх рэпрэсій, а таксама лірычная аўтабіяграфічная паэма «Сустрэча з юнацтвам».

Б $\frac{4702120202-026}{М\ 302(03)-91}$ 44—91

**ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание

**Басуматрова Светлана Михайловна**

**ДАЛЬ-ДАЛЕКА**

Стихи и поэмы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Басуматрава Святлана Міхайлаўна**

**ДАЛЕЧ-ДАЛЯЧЫНЬ**

Вершы і паэмы

---

Рэдактар *Р. М. Яўсееў*. Мастак *У. А. Сцепаненка*. Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*. Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*. Карэктар *Л. М. Маслоўская*.

ІБ № 3427

Здадзена ў набор 28.03.90. Падп. да друку 06.12.91. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,56. Ул.-выд. арк. 5,28. Тыраж 1900 экз. Зак. 313. Цана 75 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.